ПЯТРУСЬ БРОЎКА




# ОРДЭН Леніна

Ордэн Леніна агністы
Над рэспублікай вітае.
Першы раз так урачыста
Мы вясну сваю страчаем.
І мы радасць нашу ўзнімем,
Хай гарыць ў вясновым цвеце—
Кожны радасці часціну
З нас трымае ў сваім сэрцы.
Яна працаю здабыта,
Днямі, доўгімі начамі,
Яна воляй нашай зліта,
І мы сёння абяцаем:
Дружнай працаю заводаў,
Па калгасах, за сявярняй,
Пранясем мы ўзнагароду
Над рэспублікай ударнай,
Каб штандары палымнелі,
Каб ішлі мы смелым маршам,
Каб зіяў на сэрцы Ленін
У людзей найлепшых нашых,
Каб мы цвёрда йшлі дарогай,
Дзе магутнейшымі сталі,
Па якой да перамогі
Нас прывёў таварыш СТАЛІН.

---

*Сёлета 11 ліпеня спаўняецца 15 год з дня вызвалення Савецкай Беларусі ад белапалякаў. У гэты дзень БССР будзе ўручаны ОРДЭН ЛЕНІНА, атрыманы за выдатныя поспехі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.*

*11 ліпеня—вялікае ўсенароднае свята нашай ордэнаноснай рэспублікі.*




# Здарэнне на балоце

*Сымон Баранавых*

*Рыс. М. Беляніцкага*

Я сяджу адзін, на купіне, сярод Белага балота. У мяне цяпер меншы страх. Праз усе гэтыя дні я аж дрыжаў ад страху. Усе гэтыя дні гулам гула зямля. Гэта-ж адступалі і вельмі-ж стралялі белыя палякі. Дык мы схаваліся з каровамі ад белых на гэтым балоце, — я і дзед Тарас. Я за падпасыча, а дзед Тарас за пастуха. Тут уся наша бродаўская чарада.

Я цяпер адзін сяджу, а дзед Тарас пайшоў да коней. Недалёка ад нашай чарады — Сухая града. Там усе нашы бродаўскія коні. Белыя палякі хочуць, каб хутчэй уцячы, а коней у іх мала. Яны абы ўбачылі каня, дык і забіраюць і забіраюць.

Каровы цяпер пасталі на стойла і жвакуюць сабе. Падцёлкі некаторыя паляглі нават. Ведама маладыя, не могуць выстаяць як старыя на нагах.

„Але дзе-ж так доўга забавіўся дзед Тарас?“—пачынаю я патроху хвалявацца. Бадай каля двух гадзін як пайшоў і няма?

Я гэтак разважаю і кідаю позірк на нашу чараду. Некаторыя падцёлкі нават пачынаюць уставаць. А вунь Тодарава Пралеска пачухала аб бярэзіну сваю шыю і пачала нават скубсці.

„Хутка рушыць у ход уся чарада, — думаю сам сабе. — А дзед Тарас... што-ж ён сабе думае? Я-ж адзін не дам рады!“

І толькі я гэтак падумаў, як Пралеска падняла галаву і наставіла вушы. І Лявонава Падласка наставіла вушы.

„Чаго яны? Мусіць, ідзе дзед Тарас“. Го-го-го!.. — злёгку прагукаў я і падумаў: — „Дзед Тарас будзе ісці па сонцы, а Пралеска з Падласкаю пазіраюць туды... Нехта ідзе супроць сонца. А можа ён заблудзіў ды ідзе з таго боку? — Го-го-го!.. Я ўзнімаюся з купіны і пачынаю ўглядацца з каровамі ў той бок. І калі я ўглядаюся яшчэ і яшчэ — валасы на маёй ґалаве становяцца дыба...





„Што-ж цяпер будзе? Што мне рабіць?—шапчу я збялелымі вуснамі.— Паляк... Белы паляк... Ён ідзе як той воўк проста на нашу чараду. Мусіць, пачуў маё „го-го-го“ і ідзе... Што-ж я, што я нарабіў!

* * *

Таго, што здарылася, я мусіць ніколі не забудуся. А гэта было вялікае здарэнне.

Калі ўбачыў я белапаляка—не мог зрушыцца з месца. Я хацеў бегчы наўцёкі і не мог. Здаецца, ён сваім позіркам прыкаваў мяне да зямлі моцнымі кайданамі. Я стаяў нерухома, як слуп, а ён падыходзіў да мяне.

Я ўбачыў: на ім, цераз плячо, вісела скураная жоўценькая сумачка. Ён быў у зялёным фрэнчы, а на плячах бліскучыя, пад сонцам, пагоны. Ён быў у ботах, а штаны—шырокае галіфе.

— Хлопак,—зварухнуў ён мяне сваім голасам.—Дзе тут Сухая града?

На мяне як уссыпаў ён цэлыя прыгаршчы жару.

„Ідзе па нашы коні“—прабегла думка,—што-ж гэта будзе?

Я маўчаў, а ён не звярнуў на маю маўклівасць увагі. Ён дастаў з жоўтай сумачкі вялізную паперу (мусіць, план), паглядзеў на яе ды:

— Як завецца гэты лес?—ён паказаў у бок кляновага лесу, што за балотам.

— Кляновая,—адказаў я дрыжачым голасам.

— Тэ-эк...—хуткімі рухамі пачаў складаць ён свой план ды зноў:— А дзе Сухая града?

Я задрыжаў усім целам і адказаў ледзь не скрозь слёзы:

— Я не ведаю... У нас няма Сухой грады. У нас тут наскрозь балота а там, на беразе,—Доўгая града.

Я не магу ўявіць, як яно ў мяне не выказалася пра Сухую граду. А мусіць таму не выказаў я, што ўявіў за адзін раз: што-ж гэта будзе, калі такую чараду коней забяруць белапалякі?

І тое, што сказаў я пра Доўгую граду, мяне выратавала. Белапаляк, мусіць, падумаў: „тая самая града, толькі неправільна запісана ў плане“.

Ён зашпіліў сумку і да мяне:

— То вось, хлопак... вядзі мяне на тую Доўгую граду.

— Панок...—падаў я голас.—А як-жа мае каровы? Яны-ж адны... згубяцца... я вам пакажу, у які бок іс...

— Вядзі!..—бліснулі ў белага паляка вочы і я недагаварыў.

Я стаяў, апусціўшы вочы, і ён ступіў крок да мяне (ён вельмі некуды спяшаўся).

— Во!.. Бачыш, што гэта?—дастаў ён з кішэні рэвольвер.

Я аж здрыгануўся. Я больш не праказаў ані слова. Я акінуў слязлівымі вачыма маіх кароў і бачыў: вось-вось яны рушаць усе з стойла. І як, як рушаць! Яны выйдуць у кляновы лес, а там—такая, такая пушча!

„Што-ж гэта будзе? дзе-ж гэта дзеўся Тарас?“

* * *



Гэта вялікае здарэнне адбылося зусім нечакана. Мы ішлі. Я параперадзе, а белапаляк в бліскучастымі пагонамі за мной. Я часамі азіраўся на яго і мне здавалася: гэта-ж той самы, што забраў з куфра, з другімі трыма, у цёткі Гэлькі ўсю вопратку. А часамі здавалася, што гэта той, што забраў Карпусёвага падсвінака.

„І як ён даведаўся пра коней?—думалася мне.—Ён-жа, канешне, шукае коней. Ну, чаго-ж інакай будзе хадзіць ён па балоце?“ Мне нават хацелася ў яго запытацца:—„Чаго вы ходзіце па балоце?“ Але я не мог пасля яго рэвальвера з ім гаварыць: усё-ж такі было мне крыху страшна.



Я толькі часамі азіраўся і бачыў: ён не ўмее хадзіць па балоце. Не так-та і гразка, а ён усё завальваецца між купін.

— Стой!—раптам пачуў я яго голас ззаду. І астанавіўся і азірнуўся. Ён цяпер такі добра заваліўся ў гразь. Я стаяў і думаў: хаця-б хутчэй мне вывесці. От-жа непаваротлівы! Дзе цяпер мае каровы?

Мы зноў ішлі. І ўжо было недалёка ад Доўгай грады. Аставалася так ганей трое ад берага. Там лес, а за лесам—бальшак, па якім дзень і ноч грукацелі абозы. Цяпер наўкол было ўсё ціха.

Мяне нават апанавала вялікая радасць. Я выведу на гэту граду і няхай ён бачыць, што тут няма ніякіх коней. Хай тады ідзе, куды хоча. Але што-ж гэта? За мной не чуваць яго шагоў? Я астанаўліваюся ды зноў нясмела азіраюся.

Зноў заграз!



Я стаю і мне нават крыху смешна, як ён карабкаецца ў гразі. Пырскі цяпер папалі нават на блішчастыя пагоны. Тут ад берага сапраўды такі гразка. Каровы ніколі не ходзяць. І не ўмеючы, не вельмі лёгка ісці. Я і то крыху правальваюся. Але я быстра выхопліваю нагу і мне—нічога.

„Дык чаго ж я стаю? — прабегла ў мяне маланкаю думка. — Я-ж ад яго магу цяпер нават і ўцячы!"

І як стаяў, рынуўся бягом да берага. Я спяшаўся і чуў, як ён злосна крычаў на мяне:—„Стой! Стой!" Але я нібы і не чуў яго гэтых слоў. Мне цяпер хацелася крыкнуць на яго тое „стой": не трэба было браць Гэльчынай вопраткі, або Тодаравага каня! Так табе і трэба!" Але я не крыкнуў. Я выбег на Доўгую граду і бягом каля балота. Я ўжо дабег да грэбелькі, па якой мы ганяем каровы на балота і па якой мы ўводзілі коней на Сухую граду. З разбегу я быў нават і не заўважыў, а толькі пачуў:

— Юрка! Юрка!—нехта мяне паклікаў.—Куды ты бяжыш?

Я астанавіўся. У мяне вунь як дрыжала сэрца. Я зірнуў і здрыгануўся: гэта-ж нашы выводзяць грэбелькай з Сухой грады коней.

— Куды вы! — крыкнуў я не сваім голасам. — Там-жа белы паляк. Ён уграз, а я ўцёк.

Да мяне падышоў Міхалінін Лявон і Тодар. У Лявона за папругаю таргаў рэвольвер, і ён быў вельмі смелы.

— Дзе?! Пакажы мне, дзе ён? — крыкнуў ён на мяне. — Мы-ж яго возьмем у палон! Да нас-жа прышлі чырвонаармейцы!

Лявон сказаў так і мне ўсё адразу стала зразумелым: гэта-ж белапаляк не коней шукаў, а ўцякаў. Гэта-ж мы можам цяпер злавіць яго ў гразі.

— Хадзем... Я пакажу! Канечне мы яго зловім.

Мы кінуліся бегчы да Доўгай грады. З намі таксама бег і Тодар. Ён бег і ўсё гаварыў: „Я першы буду з ім гаварыць. Я запытаюся ў яго пра майго каня. Я заб'ю яго, як гадзюку!"

Але калі прыбеглі мы на Доўгую граду да самага балота—я не верыў сваім вачам: белапаляка ў балоце не было...

Тодар і Лявон пазіралі на мяне, а я вінавата прыглядаўся на мокры след і раптам, з радасцю:

— Во-во!..

Лявон з Тодарам кінуліся да мяне.

— Пагоны! —ускрыкнуў я.—Во, яго блішчастыя пагоны!

— Гэта-ж афіцэрскія! — прамовіў Лявон. — Гэта-ж была не простая „птушка". Трэба-ж яго знайсці! Ён сарваў пагоны, каб яго не пазналі...

І мы ўтраіх кінуліся шукаць яго па лесе. Цэлую, можа, гадзіну шукалі і нідзе яго не было. А калі прышлі ў вёску, даведаліся: у Рудзіцы, на мосціку, яго злавіла чырвонаармейская застава.



# СТАРЫ І НОВЫ МЕНСК

Менск—адзін са старэйшых гарадоў Беларусі. Аднак да рэволюцыі Менск быў звычайным бедным, брудным горадам былой царскай Расіі. Толькі некалькі чысцейшых каменных дамоў у самым цэнтры ўпрыгожвалі горад. Але гэта былі дамы буржуазіі і царскіх чыноўнікаў. Рабочыя і гарадская беднота туліліся ў казармах і гнілых халупках на акраінах горада.

У час грамадзянскай вайны многія кварталы Менска былі спалены і разбураны адступаючымі белапалякамі.

Цяперашні Менск—адзін з вялікіх і прыгожых гарадоў Савецкага Саюза. Менск—сталіца БССР.

Зараз у Менску няма ніводнага квартала, дзе-б не былі пабудаваны за часы рэволюцыі новыя велізарныя шматпавярховыя будынкі—новыя кватэры для рабочых, новыя дамы для школ, бальніц, кіно і розных дзяржаўных устаноў. І з кожным днём яны растуць і множацца.

На гладкіх і чыстых вуліцах сотні аўтамабіляў, грузавікоў, узад і ўперад імчацца са звонам прыгожыя трамваі...

Пролетарская сталіца БССР становіцца адным з самых культурных і багатых гарадоў.



СТАРЫ МЕНСК. Захараўская вуліца (цяперашняя Савецкая). *На фотографіі* відаць даўнейшая конка: па рэйках на конях вязуць пасажыраў. Ні трамвая, ні аўтамабіляў да рэволюцыі ў Менску не было.



ДОМ УРАДУ. Самы выдатны, самы велізарны з новых будынкаў. У гэтым доме зьмяшчаюцца ўсе важнейшыя дзяржаўныя ўстановы.



СОВЕЦКАЯ ВУЛІЦА.



Акраіна старога Менска.

Ранейшыя акраіны Менска мелі выгляд звычайнай вёскі. Хаткі драўляныя, маленькія... Вуліцы нямошчаныя, гразкія, без святла ўвечары... Нават конка, і тая не хадзіла тут.

Зараз на акраінах вырастаюць новыя заводы, культурныя і грамадскія ўстановы. Напрыклад, на месцы былой Камароўкі пабудаваны і будуецца цэлы новы горад—тут клінічны гарадок, акадэмія, палітэхнічны інстытут, дом друку, стадыён, парк культуры і адпачынку і г. д.

Вуліцы запушчаных раней акраін абсаджваюцца дрэвамі, брукуюцца. Ва ўсе нават самыя далёкія ад цэнтра куткі горада ходзяць трамваі.



У раёне былой акраіны Камароўкі вырастаюць велізарныя будынкі Акадэміі навук. *На фотографіі*—будаўніцтва галоўнага корпусу.



МАШЫНАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД ІМЯ ВАРАШЫЛАВА. Гэты велізарны завод пабудаваны на акраіне горада. Ён славіцца на ўвесь Совецкі Саюз.

# У НОВЫМ МЕНСКУ

*Я. ЖУРБА.*

**Сёння вуліцы скрозь**
**Чырванеюць-цвітуць,**
**Каляруюць будынкі ў праменнях.**
**Грыміць радасны гімн**
**Першамайскаму дню,**
**І пульсуе рух творчых імкненняў.**
**Са здзіўленнем глядзяць**
**Вунь суседзі-дамы**
**На волата казачнай сілы.**
**Горда ўзнёсся увысь,**
**На ўвесь горад глядзіць**
**Дом ураду—дзівосны асілак.**

**Камароўкай іду —**
**Казка-ява ізноў:**
**Куды-ж дзеўся той лес з камарамі?**
**Падхапіў тут мяне**
**У абдымкі й панёс**
**Новы Менск з маладымі мурамі.**
**Гулка звоніць трамвай**
**Ў цвеце майскага дня,**
**Бляскі пырскаюць з рэйкавай сталі...**
**Не зламае ніхто**
**Большэвіцкі размах:**
**Ля стярна наш вялікі Сталін!**

# Страказа і Муравей



*Байка І. А. Крылова.*
*Рыс. М. Беляніцкага.*

Бесклапотна дзень-у-дзень
Страказа ўсё лета пела;
Аглянуцца не паспела,
Як зіма ужо ідзе.

Амярцвелі луг і поле,
І няма дзянькоў тых болей,
Як пад кожным ёй лістком
Быў гатоў і стол і дом.

Ўсе прайшло: з зімой халоднай
Галадоўка настае;
Страказа ўжо не пяе;
І каму-ж спяваць наўме
На жывот пусты галодны?

Цяжка стала Страказе.
К Мураўю яна паўзе:
„Не пакінь, кумок, мяне ты,
І да будучага лета,
Дарагі мой дабрадзей,
Пракармі і абагрэй“.

„Кумачка, мне дзіўна гэта:
Ці ж рабіла ты што летам?!“
Адказаў ёй Муравей.

„Не да гэтага было там—
На шырокім лузе ў нас!
Весяліліся ўвесь час.
Не наўме была работа“...

„Ах, так ты...“ „Я, пяючы,
Цэла лета прагуляла“.
„Ты гуляла і спявала,
Дык цяпер вось паскачы!“

Пераклад А. ЯКІМОВІЧА.



# ВОЎК-ДУРАНЬ

*(Народная казка)*





*Апрацоўка Я. Коласа.*
*Рысункі К. Гедды.*

Стары, галодны воўк вышаў з лесу на поле. На полі хадзілі авечкі. Пастух спаў. Выбраў воўк самага большага барана-рагаля, скраўся, схапіў яго і кажа:

— Баран, баран! Я цябе з'ем.

— Што-ж, — кажа баран: — такая мая доля. Але каб не мучыцца мне доўга, ды і табе, каб не ламаць зубы аб мае косці, стань у лагчынцы і разяў рот; а я ўзбягу на горачку, разганюся і ўскочу табе ў рот цалкам.

Стаў воўк у лагчынцы, разявіў рот. А баран узбег на горку, разагнаўся і — трах! ваўка па галаве. Аж іскры пасыпаліся з вачэй у ваўка, свету ён не ўбачыў. Перакуліўся разы два і пабег у лес.

Бяжыць воўк, бачыць—на балоце конь ходзіць.

— Конь, конь! Я цябе з'ем.

— Што-ж, — кажа конь:—такая мая доля. Толькі-ж ты здымі з маіх ног падковы, каб не ламаць табе зубы аб іх.

Нагнуўся воўк, каб скінуць падковы, а конь як дасць яму капытом у зубы. Перакуліўся воўк ды ходу.

Падбягае воўк да рэчкі. На беразе гусі пасуцца.

— Гусі, гусі! Я вас з'ем.

— Што-ж, — адказваюць гусі: — еш. Але ў нас такі звычай ёсць, каб перад смерцю нам паігралі. Паіграй наўперад нам, а мы паскачам.

Сеў воўк на купіну, закінуў галаву і давай выць. А гусі крыллямі— лапу-лапу! Узняліся і паляцелі.

Злез воўк з купіны, правёў гусей вачамі і пасунуўся далей.

Падыходзіць ён пад вёску. Каля вёскі быў хвойнік, у хвойніку свіння рылася.

— Свіння, свіння! Я цябе з'ем.

— Што-ж, — кажа свіння: — еш, але пусці ты мяне пакарміць маіх дзетак.

— А ты прыдзеш?

— Прыду.

Пайшла свіння, пакарміла сваіх дзетак ды ідзе назад. А воўк чакае яе.

— Ось што,—кажа свіння:—я вельмі грэшная. Ці не паспавядаў-бы ты мяне перад смерцю.

— Што-ж, гэта можна,—згаджаецца воўк.

А ў хвойніку сяляне бульбу на зіму ў капцы ссыпалі. Было тут шмат



ям. Пасадзіла свіння ваўка на салому каля ямы. А воўк палажыў ёй на галаву лапу і пытае:

— Ты ў гарод лазіла?

— Лазіла,—кажа свіння.

— Чужое дабро крала?

— Ох, крала.

— Малых свіней крыўдзіла?

— Чаму-ж не крыўдзіла.

— Ой, свіння, свіння. Шмат грахоў на табе. За гэтыя грахі...

Не дакончыў воўк казання казаць.

Як штурхне яго свіння лычам.

Перакуліўся на спіну воўк і—гоп у яму.

Сядзіць ён у яме і галосіць:

— Ці я той хапун, што бараноў цалкам глытаў. Ау—у—у!

— Ці я той каваль, што каня каваў. Ау—у—у!

— Ці я той музыка, што гусям граў... Ау—у—у!

— Ці я той поп, што свінню спавядаў. Ау—у—у!

Прыбеглі людзі і забілі ваўка.





# ЗВЯРЫНЫ БАЛЬ

*Байка С. Шушкевіча.*
*Рыс. В. Тіхановіча.*

Беглі чуткі-перагудкі
З кута ў кут,
Што звярам прыбудзе хутка
Шмат пакут.

Што прыедзе з цёмнай пушчы
Цар лясны,
Што звяроў ён пералушчыць
Да вясны.

І сумуе, і гаруе
Кожны звер:
Хто нас, бедных, адратуе
Тут цяпер?

А пасля яны рашылі
Ўсе амаль:
Каб цара таго задобрыць —
Зрабіць баль.

Загудзела, зашумела
У бары.
Таўкуць кашу, аж спацелі
Камары.

А лісічка каля куста
Скубе гусь,
Ажно пер'яйка у лапках —
Хрусь ды хрусь!

А пад дубам воўк бяззубы,
Быццам вол,
Двух баранчыкаў патрошыць
На расол.

А мядзведзь начоўкі мёду
Валачэ,
Аж па лапах мёд салодзенькі
Цячэ

Будзе ў лесе, будзе ў лесе
Нейкі госць.
Зацікавіўся аж гэтым
Шэры лось.

За бярозкаю зялёнай
Ціха стаў
І ў лісічкі ён нясмела
Запытаў:

— Што тут будзе, што тут будзе,
Раскажы?
І ад дзіва ён, нясмелы,
Аж дрыжыць.

Але ліску-гаспадыньку
Узяў гнеў:
— Што—не знаеш? Што—не чуў ты?
Едзе леў!

І разнёс па лесе чуткі
Шэры лось,
Што прыедзе самы страшны
Да іх госць.

Засцілае шэры зайка
Абрусы
І глядзіць, каб было месца
Тут усім.

Засцілае шэры зайка
Белы стол,
Воўк нясе ў вялікіх місках
Свой расол.

А лісічка-гаспадынька
Ставіць гусь,
А мядзведзь тут дзежку мёду
На стол—шусь!

— Вось дык будзе! Вось дык будзе
Страшны госць,—
Заяўляе па ўсім лесе
Шэры лось.

І сабралася у лесе
Звяроў шмат,
Усе стаяць, чакаюць госця
Тут у рад.

І грукочуць раптам колы,
Быццам гром,
І трашчаць у лесе страшна
Пні і лом.

Едзе, едзе на мядзведзях
Грозны леў!





Шэры зайка наш ад страху
Абамлеў.

Прывітаўся леў з усімі,
Ды за стол

Ён засеў з вялікай лыжкай
За расол.

Тут адкуль, скажыце, ўзяўся
Жоўты чмель,

Прыляцеў ды льву усеўся
На каўнер.

Закіпела ў льва на сэрцы
Раптам злосць,
Што няпрошаным з'явіўся
Чмелік-госць.

Калі крыкне леў сярдзіты
На усіх,
Дык аж чмелік жоўтакрылы
Раптам сціх.

— Ах лавіце, ах лавіце
Вы яго!
Ах, падайце мне разбойніка
Таго!

Узлаваўся раптам чмелік,
Уздрыгнуў...
Сваім джалам, быццам восцю,
Льва кальнуў...

Ды хутчэй у лес густы ён
Паляцеў...
І зароў ад моцнай болі
Грозны леў.

Пачалі чмяля звяры ўсе
Даганяць,
Палящела з крыкам, гікам
Уся гайня.

Леў знянацку калі даўся
Лбом у дуб,
Дык звяры падняслі толькі
Ў крыві труп.

Пазбіраліся вясёлыя
Звяры
Пахаваць ільва пад дубам,
Ля гары.

Ой, кіпеў-жа баль вялікі
На ўвесь бор.
Лес глушыў няспынным рыкам
Воўчы хор.

Чмелік быў цяпер героем
Не малым:
Не было яму спакою
Ад хвалы.

І пусціліся у скокі
Ўсе звяры,
Заігралі, заспявалі
У бары.

Скача ліска, скача зайка,
Скача воўк...
Вось і ўся вам, дзеткі, байка
Пра звяроў.





# Амерыканскі змей




Зрабіць яго лёгка. Бяруцца дзве планачкі: адна 50 сантыметраў даўжынёй, а другая—30 *см*. Таўшчыня планачкі—3—4 *см*, шырыня—10 *см*. Планачкі гэтыя кладуцца адна на другую і перавязваюцца ніткай (гл. рыс. 1).




Далей вазьмі моцную суравую нітку і абвяжы атрыманы крыж (рыс. 2). Вазьмі патрэбных памераў белай паперы, змаж мучным клеем планачкі і абклей паперай кругом свой змей. Потым палажы абклееены паперай змей на роўны стол, зверху накладзі кніг або чаго-небудзь цяжкога і няхай змей падсохне. Праз пару гадзін ён будзе гатоў.




Пута—моцная нітка або тонкая шпагаціна — прывязваецца да двух бакавых ражкоў папярочнай планкі і да падоўжнай, крыху ніжэй яе цэнтра. Хвост прывязваецца да ніжняга канца падоўжнай планкі (рыс. 3).

Змея можна размаляваць у чырвоны колер, або намаляваць на ім зорку. Такі змей можа падымацца на вышыню да 400 *м*.

## САМ

# Рускі простакутны змей

Вазьміце 3 планкі таўшчынёй не больш 3-х міліметраў, шырынёй—10. Даўжыня двух планак павінна быць па 40 *см*, а трэцяй—25. Гладка абгаблюйце іх (рыс. 1). Дзве даўжэйшыя планкі складзіце накрыж так, каб вышла літара Х, і на сярэдзіне перавяжыце ніткай. Зверху накладваем кароткую планку і таксама перавязваем ніткай у тых месцах, дзе атрымалася скрыжаванне планак.

Далей бярэм нітку і абвязваем аснову змея так, каб атрымаўся простакутнік (усё гэта відаць на рыс. 2).

Цяпер абклейце змея паперай, ирасушыце (робіцца гэта так, як і для амерыканскага змея).

Хвост даўжынёй каля 2-х *м* прывязваецца да ніжніх канцоў двух планак, путы—да верхніх і сярэдняй (рыс. 3).

Гэты змей можа падымацца да 800—1000 *м* у вышыню.

А. ЧАШЭЙКО.



А. БАРТО

# ЗАРАДКА

Па парадку
Стройся ў рад!
На зарадку
Ўсе падрад.

Левай!
Правай!
Бегай!
Плавай!

Вырасцем мы
Смелымі,
На сонцы
Загарэлымі.



Ногі нашы
Быстрыя,
Меткія
Выстралы.

Моцныя
Мускулы,
Вочы не тусклыя.



Па парадку
Стройся ў рад!
На зарадку
Ўсе падрад.

Левай!
Правай!
Бегай!
Плавай!

Вырасцем мы
Смелымі,
На сонцы
Загарэлымі.

## Ці ўсе камары кусаюцца?



Не, не ўсе. Будзеш у лесе, паглядзі на розныя кветкі. Можа ўбачыш, што на некаторых сядзяць камары і нікуды не ляцяць—не хочуць цябе кусаць. Гэта не якія-небудзь асаблівыя камары, а проста—камарыныя самцы. У камароў кусаюцца толькі самкі, а самцы смокчуць салодкі сок з кветак і нікога не кусаюць.

А адрозніць самца ад самкі лёгка: у самца вусікі калматыя-калматыя.

## Якая птушка ўмее шыць?



Гэта маленькая птушка завецца „швачка". Жыве яна ў Іспаніі, Італіі, Грэцыі. Яна звівае гняздо з лісцікаў. На краях лістка дзюбкай дзірачкі паробіць, а потым у гэтыя дзірачкі павуцінку працягвае, як нітку. Лісцік да лісціка прышые, і гатова гняздо. А ў сярэдзіне гнязда — пух, валоссе, павуцінне. І ўсё гэта да сценак гнязда прышыта.

## Якая рыба страляць умее?



Ты не думай, што рыбы з стрэльбы страляюць. Рыбы страляюць з рота вадой. Набярэ вады ў рот і пырсне. Метка пырскае, не прамахнецца. Самы меткі стралок—рыба-пырскун. Жыве яна далёка ад нас — на востраве Ява. Убачыць пырскун мошку на лісціку над вадой, набярэ ў рот вады, высуне над вадой галаву, пырсне. Трах! Мошка ўпала. Збіў яе вадой пырскун. Праглынуў мошку, другую шукаць пачне. Метка страляе пырскун і заўсёды без промаху.

Н. ПЛАВІЛЬШЧЫКАЎ.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЧЭРВЕНЬ 1935 № 6




ЦАНА 30 КАП.

# ПРЫГОДА З ВОРАГАМІ ПТУШАК













Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА.

Друкарня ім. Сталіна 12 000 экз. Заказ № 562. Уп. Галоўлітбела № Б—1997

